Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# НАПЕРАД!

Беларуская радыкальная тыднёвая часопісь.

Цана асобнага нумару 20 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская 8, кв. 3.

Прыймо інтэрэсантаў ад 9 да 2 гадз. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

Падпіска з дастаўкай да хаты: за 1 год—7 зл., за паўгоду—3 зл. 50 гр., за 3 мес.—2 зл., за 1 мес.—75 гр.

Год 2. Вільня, 8 студзеня 1930 г. №. 1.

**З гэтага нумару спыняем высылку газэты ўсім тым, хто дагэтуль не паклапаціўся прыслаць грошы і не паведаміў, калі іх прышле.**

## Барацьба за моладзь.

Два апошнія гады прынесьлі рад вельмі цяжкіх удараў нашай моладзі.

У канцы 1928 году, у сувязі з справакаванымі звонку палітычнымі выступленьнямі групы школьнікаў-недаросткаў, колькінадцаць вучняў Віленскае Беларускае Гімназіі былі з яе выдалены загадам куратарыюму. Праз пару месяцаў тая-ж рука, якая адарвала ад навукі гэтыя першыя свае ахвяры, сустрэўшы ў сваей далейшай акцыі рашучы адпор з боку старэйшых вучняў, кінулася да малодшых і ашуканскімі абяцанкамі высылкі на навуку ў Менск падбіла пару дзесяткоў 10—12 гадовых дзяцей учыніць у сьценах гімназіі няпрыстойны скандал. І вось новая група сялянскіх і работніцкіх дзяцей вярнулася да хаты, разьвітаўшыся з думкай атрымаць сярэднюю, а пасьля й вышэйшую эдукацыю. А ў канцы 1929 году такія-ж правакацыйныя выступленьні былі наладжаны сярод моладзі Клецкае Беларускае Гімназіі,—і ўжо трэцяя група выкінена са школы і пазбаўлена магчымасьці вучыцца...

Хто-ж вінаваты ў змарнаваньні гэтых маладых сілаў?

Вінавайцы ўсім ведамы. Тыя-ж людзі, што цяпер у Менску распачалі непрымірымую барацьбу, каб зьнішчыць культурныя здабыткі беларускіх сялян і работнікаў, далі загад сваім паслугачом і платным агентам у Заходняй Беларусі, каб за ўсякую цану „паўзрывалі" перш тут беларускія культурныя установы, перад усім—каб „па пяць замкоў" панавешывалі на дзьвярох беларускіх гімназіяў. Вось, каб гэтага дапяць, і была гэтак нягодна выкарыстана даверчывасьць ідэйнае школьнае моладзі, рукамі якое мелі быць зьнішчаны нашы найважнейшыя культурныя здабыткі ў Заходняй Беларусі.

Мэты сваей правакатары не дапялі: установы перетрывалі ўсе ўстрасеньні і асталіся жывыя. Папярпелі толькі—дзеці.

Цяпер, калі грузінскі рэнэгат Сталін з сваімі паплечнікамі захапілі кіраўніцтва камуністычнай партыяй у СССР, маскоўскі нацыяналізм, раней пільна ўкрываны пад „інтэрнацыянальнымі" лёзунгамі, высака падняў сваю галаву і скінуў маску, за якой хавалася яго запраўднае абліччa. Цяпер ужо хіба для ўсіх будзе ясна, дзеля чаго Масква дала загад сваім наймітам у Заходняй Беларусі—распачаць процібеларускую кампанію іменна на школьным фроньце. Ясна, што—наносячы ўдары нашым гімназіям, дзе сялянскія і работніцкія дзеці ўзгадоўваюцца на будучых інтэлігентаў,—маскоўскія „чырвоныя" нацыяналісты ўглядаюцца перад усім у будучыну і хочуць пазбавіць наш народ прытоку нацыянальна сьведамае, кроўна і ідэолёгічна зьвязанае з працоўнымі масамі, беларускае інтэлігенцыі. Яны вельмі добра разумеюць, што старыя кадры беларускіх працаўнікоў з кожным годам радзеюць, і хутка ўжо спасярод пачынальнікаў нашага вызвольна-адраджэнскага руху ня будзе пры жыцьці нікога. І вось дальнавідны маскоўскі шовінізм робіць усе высілкі, каб недапусьціць да ўзгадаваньня новае зьмены, якая мусіць узяць у свае рукі далейшае павадырства беларускіх працоўных масаў у іх барацьбе за нацыянальныя і сацыяльныя ідэалы.

Беларускае грамадзянства ўсіх кірункаў і партыяў павінна ведаць праўду аб гэтых маскоўскіх патугах, вельмі шчыра вітаных перад усім—польскімі нацыяналістамі: гэта-ж вада на іх млын, гэта—аблягчэньне польскага „культуркампфу", паходу польскага нацыяналізму на Заходнюю Беларусь. Першыя правільна ацанілі пагражаючую нам згэтуль небясьпеку тыя беларускія культурныя працаўнікі, якія з напружаньнем усіх сваіх сіл пабудавалі і ўтрымліваюць беларускія гімназіі. Яны рашуча выступілі на барацьбу за нашу моладзь—нашу будучыну—з гэткім сільным, магутным ворагам і ў гэтай барацьбе перамаглі. Але мала таго, што нашы гімназіі перетрывалі нанесеныя ім удары. Справа йдзе аб тое, каб надалей зрабіць немагчымым правацыраваньне з таго ці іншага боку шчырае, ідэйна настроенае, даверчывае школьнае моладзі. І тут ужо пачынаецца абавязак усяго грамадзянства, перад усім—бацькоў.

Да грамадзянства, да бацькоў мы сяньня й зварачаемся з заклікам: беражыце нашых дзяцей! Не давайце, каб з іх рабілі „гарматняе мяса"—нібы-то ў імя „сусьветнае рэвалюцыі". Сусьветная рэвалюцыя, абвяшчаючы вызваленьне прыгнечаных народаў, ня можа пачынаць свайго паходу наперад—нішчэньнем гэтых-жа народаў. І ў тэй барацьбе, якую распачаў з беларускім вызвольна-адраджэнскім рухам „чырвоны" маскоўскі нацыяналізм, крыецца ўнутраная ілжа, крыецца глыбокая супярэчнасьць з высокімі лёзунгамі, якімі ён прыкрывае свaё зьвярынае абліччa.

Зразумейце-ж гэта ўсе грамадзяне, усе бацькі! Зразумейце, што не дзеля „актыўных выступленьняў" дзяцей з такім вялізарным трудом тварыліся нашы гімназіі, а дзеля таго, каб даць гэтым дзецям навуку, прыгатаваць іх да вялікага заданьня, якое прыпадае на іх долю, як будучых інтэлігентаў. І дайце належны адпор усім, хто хоча нашы працоўныя масы пакінуць бязраднымі і безбароннымі, пазбавіўшы іх сваей роднай інтэлігенцыі.

---

**Загадам віленскага куратарыюму звольнены з Віленскае Беларускае Гімназіі шасьцёра вучняў, якія былі заарыштаваны паліцыяй на пахаронах с. п. Юстына Юхны падчас зробленай на гэтых пахаронах маніфэстацыі.**

**Сумнай весткай распачынаецца для беларусаў 1930 год..**

---

## „Памылкі".

Углядаючыся ў працу Комуністычнай партыі, прыходзіцца сконстатаваць, што яна ўвесь час жыве паасобнымі „акцыямі", г. зн. працу сваю праводзіць па пэўнаму пляну, укладзенаму, звычайна, такім чынам, што на паасобныя мамэнты прыпадае нейкая адна баявая задача. Гэтая задача праводзіцца аднaчасна па ўсяму фронту з нязвычайнай энэргіяй. Тактыка зусім слушная і вельмі разумная: з цэлага раду заданьняў, пастаўленых рэальным жыцьцём, выбіраецца нейкае адно, рэшта адсоўваецца на другі плян.

Такім чынам няма блутаніны і распыленьня—ўся ўвага ўсяго і ўсіх зьвернена ў адзін бок, на адзін невялічкі конкрэтны факт партыйнага, грамадзкага, ці дзяржаўнага жыцьця, і атака вядзецца па ўсяму фронту адным родам аружжа і адным спосабам.

Так, напрыклад, усім памятны тыя часы, калі яшчэ пры жыцьці Леніна ўся энэргія ўсяго савецкага апарату была накіравана на так званы „НЭП". (Новая Экономічная Палітыка); зноў-жа быў час, калі на ўсіх вечах, лекцыях і справаздачах, на ўсіх зборках і з'ездах, ува ўсей савецкай прэсе і ўва ўсіх савецкіх установах крычалі „тварам да вёскі" (Ліцом к деревке!). У тым годзе яшчэ так нядаўна ўвесь апарат СССР быў заняты толькі і выключна справай „Хлеба Загатоўкі" г. зн. рэквізыцыяй збожжа ад сялян. І г. д. і г. д.

І калі такія акцыі ў чыста эканамічнай галіне дзяржаўнага жыцьця маюць часта свой дадатні бок, дык у палітычным жыцьці вельмі часта прыводзяць да супярэчнасьцяў, недарэчнасьцяў і канчаюцца катастрофаю. Праўда, што пасьля кожнай такой палітычнай няўдачы пачынаюцца няўпынныя дыскусіі (разважаньні) над зробленымі памылкамі. І гэтая новая акцыя (дыскусыйная) так сама энэргічна вядзецца па ўсяму фронту, ува ўсіх ячэйках, камітэтах, сэкрэтар'ятах, ціках і т. п.

Усе мы памятаем яшчэ той мамэнт, калі падчас маёвага перавароту ў Польшчы (ў маі 1926 г.) компартыя дала загад па ўсяму фронту падтрымліваць маршалка Пілсудскага, і бяда была таму, хто да гэтага аднёсься нэгатыўна.

Праз пару-ж тыдняў ужо заядла вялася дыскусія над маёвымі памылкамі і вялася яна даволі доўга (чэрвенёвы і верасьнёвы пленумы ўсё яшчэ дыскутуюць і маёвыя і чэрвенёвыя памылкі).

Яшчэ большае захопленьне ў свaім часе было ваеннаю палітыкай Троцкага, а пасьля? — дыскусія (і то амаль двох-гадовая) над памылкамі і няшчадная атака на Троцкага і ўсіх „троцкістаў". Цяпер-жа, як бачым, Сталін ізноў цалком праводзіць тую ж самую ваенную палітыку Троцкага (што праўда, гэта не перашкаджае яму аднaчасна біць самога Троцкага). Наагул, калі ўважліва прасачыць палітычную лінію Комінтэрну за апошнія 5—7 гадоў, дык знойдзем там шмат такіх мамэнтаў, калі лінія гэтая значна адхілялася, каб праз нейкі час ізноў вярнуцца на папярэдні шлях. І ў гэтым ня было-б нічога дзіўнага, бо-ж жыцьцё ставіць свае вымогі, каб ня тое, што ад такіх акцыяў бязупынна дэзор'енруюцца працоўныя масы і гэтым аслабляецца іх організацыйная сіла і падрываецца іх вера ў перамогу.

У адносінах Компартыі да беларускага вызвольнага руху бачым тое самае. У сьнежні 1917-га году Сталін разганяў штыкамі Усебеларускі Конгрэс, зложаны з прадстаўнікоў выключна сялян, рабочых і нязначнай часткі перадавое працоўнае інтэлігенцыі,—за „недарэчную", паводле Сталіна, ідэю стварэньня беларускае сацыялістычнае рэспублікі ў складзе Усерасейскае Фэдэрацыі; а праз год тыя-ж самыя бальшавікі нагвалт самі твораць гэтую „недарэчнасьць". На—працягу часу ад 1917 да 1924 году бальшавікі абвінавачваюць правадыроў беларускага радыкальнага руху: Луцкевіча, Тарашкевіча, Астроўскага, Рак-Міхайлоўскага і др. у контр-рэволюцыйнасьці, а праз 2—3 гады (ў 1926 і 1927) узносіць іх на недасягнены п'едэстал, як запраўдных і адзіных барацьбітоў і мучанікаў за працоўны беларускі народ.

У 28-м годзе, што праўда, ізноў некатарых з іх, як Луцкевіча і Астроўскага, пераводзяць у лагер контр-рэволюцыйны і распачынаюць акцыю недарэчнае брахні на тых, хто ўсё свaё жыцьцё застаўся верны свайму ідэалу, хто не захацеў рабіць памылак дзеля таго толькі, каб пасьля дыскутаваць над імі...

А адносіны да камуністычных працаўнікоў у Радавай Беларусі? Атакі на беларускіх камуністаў Жылуновіча, Ільлючонка, Прышчэпава і шмат другіх—ці-ж не выяўляюць нам тэй самы малюнак?

А ў нас—у Заходняй Беларусі — леташняя стаўка на ўзрыў беларускіх культурных установаў? Была распачата тады агітацыя сярод моладзі віленскай бел. гімназіі, якую намаўлялі падсякаць сук, на якім яна сядзела... А ў выніку—дзесяткі маладых культурных сілаў апынуліся на вуліцы.—А цяпер ужо ізноў ідуць дыскусіі над памылкамі—і так... без канца!

У выніку-ж усяго гэтага ўжо „застрэльшчыкі" такое палітыкі канчальна збанкрутавалі — як у вачох масаў, так і моладзі.

А народ?

Народ застаўся сам па сабе і ўзіраецца цяпер не на таго, хто прыгожа гаворыць і шмат абяцуе, а на тых, хто сьмела і ўпорна вядзе мазольную пазытыўную працу, і пойдзе Народ беларускі не за „доказам", а за „показам"!

**Копны.**

---

